**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

## НА 50-ЫЯ УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

Лёзунг „Беларусь у Змаганьні!", пад якім прайшла ў верасьні 1970 году ў Нью-Ёрку 9-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, застаецца асабліва на часе ў сувязі зь сёлетнімі 50-мі ўгодкамі антыбальшавіцкага Слуцкага Паўстаньня, што было фактычна вайной нашага народу за Беларускую Народную Рэспубліку.

Вайна-змаганьне за БНР ня спынілася, — няволя й супраціў ёй узаемазьвязаныя прычынавай сувязяй — зьмянілася адно форма гэтага змаганьня, із збройнага яно сталася палітычным, чаcткава пайшло ў падполье, а часткава за землю Бацькаўшчыны перанеслася ў замежжа.

Савецкі партыйны гісторык Вадзім Круталевіч піша: „Беларускія буржуазныя нацыяналісты ўсхваляюць гэтак званае Слуцкае Паўстаньне, як ‚вялікую гістарычную падзею' " („Неман", 1968, № 4). Але-ж, памятаючы і ўсхваляючы, бо на гісторыю свайго народу ніхто не павінен забывацца, бо ў гісторыі — нашае дазнаньне, у несхвальшаванай мінуўшчыне — крыніца нашае палітычнае веды, нашага палітычнага розуму на сучаснасьць і на будучыню.

Слуцкае Паўстаньне было выбухам народнага гневу супраць бальшавіцкага зьдзеку над правам на нацыянальнае самавызначэньне, супраць гвалту над сувэрэннай Беларускай Народнай Рэспублікай, супраць паняволеньня, што трывае й да сяньняшняга дня.

Дзесяцігодзьдзі ўціску, русыфікацыі ды хвальшаваньня гісторыі ня зьнішчылі аднак у беларускім народзе ўсьведамленьня, што запраўдны культурны й эканамічны дабрабыт пачынаецца ад незалежнасьці, ад поўнага гаспадараньня на сваёй зямлі.

Гэтае ўсьведамленьне свайго права на свабоду, гатовасьць (як паказала ўжо гісторыя) пры першай спрыяльнай нагодзе — ніякая-ж міжнародная каньюнктура ня вечная! — перайсьці ад супраціву пасыўнага да супраціву збройнага, не дае супакою каляніяльнай Маскве. Голас страху за ўладу над паняволенай Беларусяй стаўся неадлучным голасам у хоры савецкае прапаганды. Прагучэў ён асабліва выразна й шматзначэнна ў сёлетнім жнівенскім нумары „Полымя":

„У сваіх плянах ‚крыжовага паходу' супраць першай краіны сацыялізму ідэялягічныя дывэрсанты вялікае месца адводзяць Савецкай Беларусі.. Маецца на ўвазе **перш за ўсё яе геаграфічнае становішча.** Рэспубліка зьяўляецца заходнімі варотамі нашай краіны".

Гэты голас трывогі з-за „заходніх варотаў" маскоўскае турмы народаў адно лішні раз пацьвярджае, што геапалітычнае палажэньне Беларусі, як „Заходніх варотаў" чырвонае імпэрыі, становіць вельмі важны мамэнт у нашым палітычным абгрунтоўваньні перад урадамі дзейнікамі ў Вашынгтоне, Лёндане, Атаве, Парыжы, Брусэлі ды ў сталіцах іншых дзяржаваў, што прыхільна ставяцца да Беларусі ў змаганьні. Да збройнага змаганьня Беларусь будзе заўсёды гатовая ў вядаведны мамэнт гісторыі. Пра гэта нагадвае нам Дзень Слуцкіх Герояў.

Пяцьдзесятыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня мы найлепш ушануем, прыгадваючы сабе словы загаду Галоўнага Каманданта Войскам Беларускае Народнае Рэспублікі маёра Якубецкага зь 19 сьнежня 1920 году, у якім дэкляравалася:

„Мы не пакінем змагацца пакуль жыхар Беларусі ня зробіцца праўдзівым гаспадарам свае зямлі. Установчы Сойм Беларускі, выбраны на засадзе агульнага, простага, патаемнага, роўнага й прапарцыянальнага, бяз розьніцы полу й нацыянальнасьці, выбарчага права будзе скліканы адразу-ж пасьля вызваленьня Беларусі ад наездцаў, які выпраце законы, патрэбныя народу нашаму".

Канчальныя-ж словы загаду войскам БНР гучаць і сяньня ня менш сувора й патрабавальна: „Доля нашае Бацькаўшчыны ў вашых руках, ведайце, што толькі ў незалежнай і непадзельнай Беларусі народы яе знойдуць здавальненьне сваіх патрэбаў".

Сяньня, у 50-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, мы, як ніколі, упоўненыя, што ў нашым геройчным і свабодалюбным народзе жыве змагарны дух, жыве й будзе жыць датуль, пакуль ня прыйдзе ўжо ня Слуцкае, а Беларускае Паўстаньне, у полымі й муках якога адродзіцца да новага жыцьця Беларуская Народная Рэспубліка.

## ВЫБАРЫ Ў ЗША: ХТО ВЫГРАЎ?

Адна з заканамернасьцяў амэрыканскіх прамежкавых выбараў (оф йір элекшэн) тое, што партыя прэзыдэнта траціць месцы ў Кангрэсе. Тлумачыцца гэтая зьява тым, што, пры амэрыканскай двупартыйнай сыстэме, народ як-бы папераджае партыю Белага Дому пра часовасьць ейнае ўлады — пра тое, што, калі яна ня дасьць рады з актуальнымі праблемамі нацыянальнага жыцьця, дык у прэзыдэнцкіх выбарах праз два гады Белы Дом можа апынуцца ў руках апазыцыйнае партыі.

Гэтую заканамернасьць адзначыў яшчэ ў 1962 годзе выдатны палітычны камэнтатар Амэрыкі Ўолтэр Ліпман, зрабіўшы з гэтага гэткі высноў:

„Паводля правілаў палітычнае гульні, як яна адбывалася на працягу апошняга паўстагодзьдзя, — заўважыў Ліпман, — калі партыя пры ўладзе што-небудзь і траціць у прамежкавых выбарах, дык у запраўднасьці яна здабывае перамогу".

Маючы наўвеце гэтую акалічнасьць, трэба сьцьвердзіць, што ў сёлетніх выбарах Рэспубліканская партыя Прэзыдэнта Ніксана выйшла пераможнай.

У Сэнаце Рэспубліканцы ня тое, што ня страцілі ніводнага месца, а здабылі шэсьць месцаў. І ў новым Кангрэсе Амэрыкі, што пачне сваю дзейнасьць у студзені 1971 году, рэспубліканскіх сэнатараў будзе ўжо 46 супраць 54 Дэмакратаў. Затым аднак, што некаторыя кансэрватыўныя сэнатары-Дэмакраты стаяць за палітыку Белага Дому, Прэзыдэнт Ніксан у новым Сэнаце будзе мець „працоўную большыню", што забясьпечыць правядзеньне галоўных урадавых мерапрыемстваў у галіне замежнае й абароннае палітыкі.

У ніжняй палаце Кангрэсу, Палаце Прадстаўнікоў, Рэспубліканская партыя страціла ў сёлетніх выбарах восем месцаў. Маючы аднак на ўвеце факт, што партыя Белага Дому траціць у часе прамежкавых выбараў у Палаце Прадстаўнікоў у сярэднім 41 месца, Рэспубліканцы фактычна і ў гэтым выпадку, кажучы словамі Ўолтэра Ліпмана, „здабылі перамогу". Сталася гэта ў вялікай меры ў сувязі з дасягненьнямі Прэзыдэнта Ніксана ў галіне нутраное й вонкавае палітыкі, а таксама ў выніку асабістых выступленьняў Прэзыдэнта Ніксана і Віцэ-Прэзыдэнта Агню перад выбаршчыкамі.

Якое значэньне мае для нас перамога ў выбарах Рэспубліканскае партыі й палітыкі Прэзыдэнта Ніксана?

У сёлетніх выбарах — на ўзроўні ўсеамэрыканскім, штатным і мясцовым — рэспубліканскія кандыдаты выявілі вялікае зацікаўленьне да этнічных групаў Амэрыкі ды занялі выразную пазыцыю салідарнасьці з тымі меншынямі, народы якіх на бацькаўшчыне церпяць пад камуністычнай дыктатурай.

Будучыя прэзыдэнцкія выбары ў Амэрыцы, трэба мець наўвеце, будуць праходзіць таксама пад лёзунгам спачуваньня Рэспубліканскае партыі паняволеным народам ды ў атмасфэры салідарнасьці з этнічнымі меншынямі Амэрыкі ў іхным высілку на карысьць свабоды для паняволеных краёў свайго паходжаньня.

Сёлетняя рэспубліканская перамога ў выбарах паказвае, што партыя Прэзыдэнта Ніксана забясьпечыла сабе ў Кангрэсе салідную базу. Перамога-ж Рэспубліканскае партыі у прэзыдэнцкіх выбарах 1972 году будзе й нашай перамогай, перамогай палітыкі міру й далейшага эканамічнага росквіту Амэрыкі, палітыкі маральнага й палітычнага падтрыманьня беларускага народу ў ягоным супраціве камуністычнаму злу й русыфікацыйнаму гвалту.

## ПАМЯЦІ АРХІЯПІСКАПА ВАСІЛЯ

25 кастрычніка Парахвія БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце Паніхідай і памінкавым абедам аддавала чэсьць памяці Архіяпіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля.

У залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, дзе чакалі накрытыя сталы з абедам, на сьценах выстаўленыя былі гнёзды фатаздымкаў прадстаўлялі жыцьцёвы шлях Сьв. Памяці Архіяпіскапа Васіля. На франтовай сьцяне Ягоны патрэт заняў месца побач патрэту Старшыні Рады БНР Сьв. Пам. Міколы Абрамчыка. Жылі яны ў тым самым часе, працавалі для тае самае ідэі й памерлі амаль адначасна. Сяньня іхнія патрэты адзін побач другога — гэта сымбаль неразлучнасьці ідэі БНР і БАПЦ, неразлучнасьці ідэі палітычнай і духовай незалежнасьці Беларускага Народу.

На правай сьцяне здымкі ілюстравалі пастрыжэньне ў манахі 18 сьнежня 1949 г. інж. Уладзімера Тамашчыка й наданьне яму імя Васіля, хіратонія Архімандрыта Васіля ў япіскапы 19 сьнежня 1949 г. у Розэнгайме ў Нямеччыне. Далей — візыта Уладыкі Васіля ў Ангельшчыне ў 1950 г.; першая візыта ў Канадзе ў часе высьвячэньня Беларускага Дому на Дандас 1000 і першае БАПЦарквы ў Тароньце ў 1954 г. Далей Уладыка Васіль у Аўстраліі ў 1968 г., у Нью Ёрку ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, на высьвячэньні асяродку Менск, сярод вучняў і настаўнікаў беларускае школы ў Нью Ёрку. Уладыка Васіль у Вашынгтоне сярод выдатных палітыкаў ЗША, як цяперашні Прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксан, ды наканец — паховіны Архіяпіскапа Васіля.

Як гэта вымагае стары звычай на памінках па сьвятарох перад абедам прысутныя „прычашчаюцца" стравай, што ў часе Паніхіды была асьвечаная малітвай.

Пад канец абеду абшырны даклад Уладыкі Мікалая прадставіў жыцьцёвы шлях і дзейнасьць Сьв. Пам. Архіяпіскапа Васіля. Старшыня БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч у сваёй прамове падкрэсьліў духовыя якасьці Уладыкі Васіля, як галавы БАПЦ, як нацыянальнага дзеяча, як чалавека, які дзе-б ня быў — у Беларусі, Празе, Нямеччыне ці ЗША — быў заўсёды Беларусам, і ці то ў стане сьвецкім, ці духоўным, і асабліва, як галава БАПЦ уважаў за свой сьвяты абавязак працаваць для свайго Беларускага Народу, для вызвольнай беларускай справы. Як вартасны гэта быў чалавек, як страшнай для ворагаў Беларушчыны была ягоная дзейнасьць, сьветчаць бязупынныя напады на Яго гэтых-жа ворагаў, ня толькі за Ягонага жыцьця, але й па сьмерці, бо ворагі ведаюць, што ўплыў Архіяпіскапа Васіля на беларускі народ, на вызвольную беларускую справу не канчаецца зь Ягонай фізычнай сьмерцяй.

Др. Язэп Сажыч, які прамаўляў ад беларускіх вайскавікоў, параўноўваў Уладыку Васіля да духоўнага вайскавіка, які памёр ад шматлікіх ранаў. Далей прамаўляў Старшыня ЗБК сп. А. Грыцук. сп. К Акула, Старшыня Парахвіяльнай Рады сп. Ул. Цялеш.

Наканец гаварыў вуснамі Сакратара ЗБК — Раісы Жук-Грышкевіч, якая прачытала апошні ліст Уладыкі Васіля да Беларусаў Канады — і Сьв. Пам. Уладыка Васіль.

Ягоныя словы гучэлі, як тэстамант, як запавет, у якім перадаваў Ён нам у спадчыне сваю непахісную веру, што пры дапамозе Божай, якая дзеіць праз нашую Сьвятую БАПЦаркву, ужо недалёкі той час, калі беларускі народ прыйдзе ў сваю Зямлю Абяцаную — Вольную Беларусь!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ПАМЯЦІ АЙЦА ХВЕДАРА ДАНІЛЮКА



У нядзелю 8 лістапада сёлета былі ўгодкі адзначаныя 10-я ўгодкі ад сьмерці Мітрафорнага Пратаярэя а. Хведара Данілюка, што адыйшоў на той сьвет 29 ліпеня 1960 году на 73-ім годзе жыцьця. У згаданую нядзелю а. Карп Стар у Саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адслужыў Паніхіду за супакой душы сьв. пам. а. Хведара Данілюка, пасьля якой у царкоўнай залі адбылася традыцыйная памінальная бяседа пры вялікім удзеле беларускага грамадзтва Нью Ёрку й аколіцаў.

Хоць ад сьмерці а. Хведара Данілюка мінула дзесяць зь лішнім гадоў, добрая памяць аб ім жыве сярод беларускага грамадзтва, бо на гэтую памяць а. Хведар Данілюк поўнасьцяй заслужыў ня толькі як сьвятар, але й гарачы беларускі патрыёт, няўтомны грамадзкі працаўнік, жаўнер і змагар за вольную й незалежную Беларусь, а таксама й як чалавек глыбокіх людзкіх прынцыпаў. Рэдка хто зь Беларусаў спалучаў у сабе гэтулькі вялікіх якасьцяў, як а. Хведар Данілюк.

Ён актыўны ўдзельнік слаўнага Слуцкага Паўстаньня 1920 году, пазьней у Заходняй Беларусі адзін з арганізатараў Першага Беларускага Палка ў Гродні. Калі-ж вайсковая акцыя ня мела больш пэрспэктываў для адбудовы незалежнасьці Беларусі, Хведар Данілюк замяніў меч на крыж, стаўшыся ў 1921 годзе сьвятаром, каб служыць беларускаму народу Словам Божым. За сваю прынцыповасьць і непахіснасьць у вабароне людзкіх і нацыянальных ідэялаў быў ён колькі разоў зьняволены польскімі й савецкімі ўладамі. Ня меў ласкі й з боку апанаванай Расейцамі царкоўнай герархіі ў Заходняй Беларусі. Калі-ж польскія ўлады павялі палітыку палянізацыі Праваслаўнай Царквы, а. Хведар Данілюк наважана супраціўляўся гэтай акцыі.

Быў ён энтузіястычным прыхільнікам і ўдзельнікам аднаўленьня Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы ў 1942 годзе й адным з актыўных удзельнікаў Праваслаўнага Сабору ў Менску ў гэным годзе. Калі-ж япіскапат Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў 1946 годзе, адмовіўшыся ад аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы, уліўся ў Расейскую Зарубежную Царкву, а. Хведар Данілюк адважна асудзіў гэты акт і не пайшоў за япіскапамі-перабежчыкамі. Затое пасьля аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1947 годзе, стаўся ён гарачым і няўтомным працаўніком за ейнае пашырэньне і ўмацаваньне. Апынуўшыся ў Задзіночаных Штатах, а. Хведар Данілюк працаваў настаяцелем Сабору БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, паглыбляючы рэлігійныя й нацыянальныя ідэялы сярод беларускіх вернікаў.

Высокія рэлігійныя, нацыянальныя й людзкія якасьці а. Хведара Данілюка годна адзначылі ў сваіх прамовах на памінальнай бяседзе ў нядзелю 8 лістапада сёлета сп. сп. інж. М. Гарошка, Ул. Русак, М. Тулейка, Ул. Курыла й А. Шукелайць. Тыя-ж на памінальнай бяседзе, што ня выступалі з прамовамі, ушанавалі сьветлую памяць а. Хведара Данілюка й ягоныя заслугі для беларускага народу ў сваім сэрцы.

### У АДНАЧЫНКОВЫМ ЦЭНТРЫ СЛУЦАК

Днямі 10, 11 і 12 кастрычніка сёлета сабралася ў вадпачынковым цэнтры Слуцак у Канадзе ладная грамада Беларусаў з Таронта й Садбуры. Пры гэтай нагодзе Уладыка Мікалай адслужыў там-жа Божую Службу. Пасьля Багаслужбы ўсе прысутныя злажылі разам прывезеныя запасы яды ў супольна паабедалі. Пры абедзе найболып гутарылі пра Слуцак ды пра тое, як найлепш выкарыстоўваць яго для дабра нашага грамадзтва.

Хочацца зьвярнуць увагу на навакольную прыроду. Хіба няма такога чалавека на зямлі, які-б ня любіў яе ў кажнай пары году. Гэтым разам, не зважаючы на дажджлівую восень, было надзвычайна прыгожае надвор'е. Уначы неба было чыстае, а зоркі гэтак ясна зіхацелі, быццам спаборнічалі між сабою. Рана ўсходзячае сонца кідала свае ясныя праменьні спачатку на вяршаліны дрэваў, памяленьку абліваючы іх да самае зямлі. Глядзіш на краявід аколіцаў Слуцку й не знаходзіш словаў, каб апісаць ягоную прыгожасьць, а толькі адчуваеш і перажываеш яе. Мімаволі ўспамінаеш сваіх суродзічаў, што жывуць у вялікіх гарадах, ахутаных дзяружкай розных газаў ды душацца ад нястачы паветра. Дзелімся з вамі, чытачы, гэтымі ўражаньнямі, каб і вы змаглі налюбавацца чароўнай прыгожасьцяй ды надыхацца сьвежым паветрам у Слуцку.

Нікому не хацелася ад'яжджаць із Слуцку, але абавязкі змушалі ўсіх вяртацца на працу пад газавую дзяружку.

**Гр.**

### ЛЯТАРЭЯ КЛЮБУ „ПАГОНЯ"

Як і мінулымі гадамі, Беларускі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня" ў Тароньце ладзіць і сёлета лятарэю, якая будзе разыграная на надыходнім балю ў Тароньце сёлета. Цана аднаго лятарэйнага білету — 1 даляр. Даход зь лятарэі прызначаецца на выданьне Гісторыі Беларусі ў ангельскай і беларускай мовах, якая ўжо пасылаецца да друку й выданьня Клюбам „Пагоня".

Палавіна грошай з прададзеных білетаў (агулам 1.000) пойдзе на адзін выйгрыш. Прадавец выйгрышнага білету атрымае ўзнагароду ў суме 25 даляраў.

# 22 ГАДЫ ТАМУ...



Перада мной колькі фотаздымкаў, што вось ужо пару год падрад прывозяць мне Беларусы-турыстыя, якія наведваюць Нямеччыну. На фоне „Карвэндэльгэбіргэ" (Карвэндэльскіх гораў) шэры бэтонны абэліск, з вайсковым крыжам і белай мармуровай плітай з надпісам. Пахіліліся слупкі з ланцугамі, што твораць агароджу. Мэтровыя калісь ялінкі сяньня выглядаюць зусім „дарослымі" дрэвамі.

Плывуць успаміны... Лета 1947 году. Яшчэ зусім нядаўна шалела прымусовая рэпатрыяцыя. Цяпержа ўзноў няпэўнасьць долі, бо векжа ня будзем жыць у лягерах. У дадатку лягер маюць зьліквідаваць, а ягоных жыхароў паразвозіць па іншых лягерах. „Прыхільныя" да Беларусаў урадаўцы ІРО (можа навет тыя самыя, што ў сваім часе абяцалі даць дазвол на выдаваньне беларускай газэты „ў дні 35-га травеня") перакідваюць пару сотняў Беларусаў у расейскі лягер „Люттэнзээ" ў Альпах.

Першыя словы, якія мы пачулі прыехаўшы сюды, гэта: „Здесь русский лагер и пожалуста говорите по русски". Вось тэбе й маеш! Аказваецца, Беларусаў можна русыфікаваць навет на нямецкай зямлі й на амэрыканскім хлебе.

У найбліжэйшую суботу „старэйшыя браты" наладзілі ў наш гонар г. зв. „казачий вечер". Праграма складалася з „мнагалецьцяў" жывым і „вечная память" памерлым „высочествам" і превосходительствам" з Мураўёвам-вешацелем улучна. Але калі напрыканцы дырыгент (між іншым, сам беларускага паходжаньня) заанансаваў „беларускую **нацыянальную** песьню „Сьвіньні ў рэпе", гэтага ўжо было зашмат. Беларусы як адзін вышлі з залі, падарозе перакульваючы крэслы й лаўкі. Назаўтрае мы чулі адно пагрозы, як прыкладам, „в порошёк сотрем" і пад.

І пачалі „расьціраць". За ўсякую драбніцу трэба было змагацца, казаў той, рукамі й зубамі. Але, апрача драбніцаў, былі й паважнейшыя справы: беларуская школа, атрыманьне платных пасадаў у лягернай адміністрацыі прапарцыянальна да колькаснага складу групы, справядлівы распадзел харчаваньня й вопраткі без фаварызаваньня Расейцаў і г. д.

Памалу, але ўсё згаданае ўдалося адваяваць, праўда, пры выдатнай дапамозе Украінцаў із суседніх лягераў. Пачала працу беларуская школа, Беларусы атрымалі колькі этатаў у лягернай адміністрацыі, паліцыі і ў магазынах. Адно не разьвязвалася аж да канца існаваньня лягеру нацыянальная праблема. Расейская бальшыня ніколі не магла пагадзіцца з фактам, што ў г. зв. расейскім лягеры жывуць нейкія „расчленители", што ня хочаць пасылаць дзяцей у расейскую школу й гавораць на сваёй мове, ігнаруючы „общепонятную", а найгорш, што ня прызнаюць расейскага сьцягу, а маюць свой.

Калі з нагоды некаторых урачыстасьцяў і на афіцыйны дазвол іраўскіх уладаў беларускі сьцяг быў вывешваны побач з расейскім, апошнія амаль заўсёды зьняважалі яго і з гэтае прычыны даходзіла да боек.

Неяк у пачатку верасьня 1948 г. адбылася зборка беларускага актыву ў справе наладжаньня сьвяткаваньня ўгодкаў Слуцкага паўстаньня. Больш угадова настроеныя й пераважна старэйшыя раілі не рабіць ніякага сьвяткаваньня, каб не дражніць Расейцаў, бо ў іх і перакладчыкі й дараднікі ІРО, а за нас хто ўступіцца, тым больш цяпер, перад эміграцыяй за мора.

Тады голас забрала моладзь. І вось як сяньня памятаю словы аднаго зь іх: „Хлопцы! Мы ня толькі наладзім сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня, але вунь на гэным узгорку пабудуем помнік Слуцкім паўстанцам, каб турысты, што наведваюць гэтыя мясьціны, бачылі, што й мы шануем сваіх герояў!"

Праект падтрымала ўся моладзь і некаторая частка старэйшых, між іншым і аўтар гэтых радкоў. Пастаноўлена адразу-ж прыступіць да працы, бо да 27 лістапада заставалася й ня гэтак шмат часу. Моладзь як моладзь, энтузіязму хоць адбаўляй, і не прадбачыла яшчэ ўсіх цяжкасьцяў, што яе спаткаюць.

Першае, ад чаго пачалі на другі дзень пасьля зборкі, гэта атрыманьне дазволу на пабудову ад мясцовай нямецкай адміністрацыі. Пачаўшы яшчэ досьвіткам, нашая дэлегацыя з гатовай пэтыцыяй ужо каля паўдня была у мясцовым Ляндрадсамце. Там нам сказалі, што гэтая зямля зьяўляецца былай вайсковай маемасьцяй, і дзеля гэтага знаходзіцца пад адміністрацыяй Амэрыканскіх акупацыйных уладаў і да гэтых уладаў трэба зьвяртацца па дазвол.

Прыйшлося адразу ў корані зьмяняць тэкст пэтыцыі, а найгоршае, што яна павінна была быць перакладзеная на ангельскую мову. У цэлай нашай групе ня было нікога, хто-б ведаў ангельскую мову. Тады некаму прыйшло ў галаву, каб зьвярнуцца да перакладчыцы-Расейкі, якая, здавалася нам, ня была ўжо такой „беларусаедкай". Гэтак і зрабілі й праз пару дзён перадалі гатовую пэтыцыю ў Мілітэры Гаврнмэнт у Гарміш-Партэнкірхэн.

Прайшло пару тыдняў, але адказу ня было. Калі нашая дэлегацыя ўзноў наведала згаданую ўстанову, то дзяўчына-сяржант чуць ня выставіла нас за дзьверы, і адно толькі, што мы зразумелі (яна гаварыла гэтак панямецку, як мы паангельску), што ніякага адказу на нашую пэтыцыю й ня будзе.

Тады мне прыйшло на думку, каб зьвярнуцца з гэтай справай да маёра Амэрыканскай арміі сп. Ф., які пры нашым лягеры вывучаў расейскую мову. Ён зацікавіўся гэтай справай і захацеў пабачыць копію пэтыцыі. Прачытаўшы яе, ён запытаў: Чаму вы называеце сябе антыкамуністымі, а хочаце стаўляць помнік камуністым? Калі-ж мы запярэчылі, то ён сказаў, што ў пэтыцыі мы просім дазволу паставіць помнік камуністым. Вось табе й перакладчыца.

Пасьля гэтага ён напісаў для нас іншую пэтыцыю й абяцаў перадаць яе асабіста, куды трэба. На наступны дзень вечарам ён перадаў нам гатовы дазвол з аднатацыяй мясцовага Ляндратсамту, што нам перадаецца ў бястэрміновае карыстаньне пляц у 150 кв. мэтраў з даездам да яго з галоўнае дарогі. Да гэтага быў далучаны плян пляцу.

Наступнае раніцы на вызначаным пляцы ўжо кіпела праца. Прыйшлі капаць фундамант навет тыя, што не хацелі дражніць „старэйшых братоў". Душой ці так сказаць тэхнічным кіраўніком і галоўным майстрам быў А. Ку. Прышоў паглядзець на нашую працу й маёр Ф. Ягонае зацікаўленьне нашай працай зрабіла нам узноў вщлікую прыслугу, бо адміністрацыя лягеру, пераканаўшыся, што ён сымпатызуе нам, дала дазвол выкарыстаць лягерны грузавы самаход для давозу на месца пабудовы бэтонных блёкаў з узарваных нямецкіх бункераў, а дадаткова абяцала выдаць некаторую колькасьць цымэнту зь лягернага складу.

Як на злосьць, прыйшла непагадзь, а пасьля яе замаразкі, што тармазіла працу, але яна ўсё-ж пакрысе пасоўвалася наперад, бо на недахоп работнікаў не даводзілася наракаць.

Але тут выплыла новая праблема. Трэба было дастаць мармуровую пліту для надпісу. Знайшлі майстроўню помнікаў у Гарміш-Партэнкірхэн, але собсьнік Немец за пліту й надпіс запрасіў даволі салоную, як на нашыя дэпіўскія кішэні, цану. Памагло ў меру магчымасьці мясцовае „працуючае грамадзтва", а недахоп хлопцы выраўнялі сваімі прыдзеламі цыгарэтаў.

І вось за колькі дзён да 27 лістапада помнік быў гатовы.

На адкрыцьцё запрасілі Старшыню Беларускага Нацыянальнага Камітэту — сяньняшняга сьвятара а. Васіля Кендыша, прадстаўнікоў ІРО, украінскае грамадзтва з двух суседніх лягераў з выпрабаваным нашым прыяцелем Д-рам Трышам на чале. На вялікі наш жаль наш вялікі прыяцель Маёр Ф. ня мог быць прысутным, бо тэрмінова быў змушаны адляцець у Францыю.

На вызначаную гадзіну перад помнікам выстаіліся Беларускія і Украінскія скаўты ды украінскі адздел СУМ-у зь сьцягам, а таксама беларускае і ўкраінскае грамадзтва. Помнік, накрыты бел-чырвона-белым палатном, пасьвяціў, сяньня ўжо нябожчык, а. Барыс, Настаяцель мясцовае царквы.

Пасьля кароткае прамовы Старшыня БНК зьняў палатно і прысутныя пабачылі суровага стылю абэліск з вайсковым крыжам і надпісам: „Змагаром за волю Беларусі ў 28-ю гад. Слуцкага Паўстаньня. Беларусы ляг. Люттэнзээ. 1948". А ніжэй: "Helden für Freiheit Bielorussiens".

Было зложана шмат вянкоў ад арганізацыяў з Радай БНР і Беларускім Нацыянальным Камітэтам на чале, а таксама ад паасобных Беларусаў.

На заканчэньне адбылася жалобная акадэмія дзеля ўшанаваньня ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня ў лягернай тэатральнай залі.

Ад часу пабудовы помніку прайшло амаль чверць стагодзьдзя. Як птушкі разьляцеліся па сьвеце тыя, што яго будавалі або іншым спосабам прычыніліся да ягонае пабудовы. Сяньня яны жывуць у Эўропе, Новай Зэляндыі, Аўстраліі й Паўдзённай ды Паўночнай Амэрыцы. І хоць пахілілася агароджа й пацямнеў надпіс, але сам помнік нагадвае ўсім, хто бачыць яго, што за пару тысячаў кілямэтраў на ўсход ляжыць прыгожая Случчына ды што ейныя Верныя Сыны 50 год таму „пайшлі паміраць, каб жыла БАЦЬКАЎШЧЫНА".

**В. Наддзьвінскі**

## „БРАСЛАЎ НАШ ПРЫ ВАЗЁРАХ"

Пры ўспаміне аб гэтым маляўнічым горадзе, якому адпавядае такое-ж прывабнае наваколле, адразу прыгадваецца паэтычнае сьветчаньне ўзвышэнца Ўладзімера Дубоўкі:

Браслаў наш пры вазёрах
і вазёры ў Мёрах,
а падобных вазёр
ты ня знойдзеш нідзе.

А зь ім перагукваецца другі ўзвышэнец Максім Лужанін:

Каля Браслаўскіх сініх вазёр
Гусі-лебядзі мыліся,
Паглядалі ў прастор,
Ці дарог не забыліся.

Амаль на 50 кілямэтраў працягнуўся з поўдня на поўнач ланцуг з трох дзесяткаў блакітных вязьмаў— вялікіх і малых Браслаўскіх вазёраў, зь якіх найбольшыя Дрывяты, Несьпіш, Струста, Снуды й крыху ў баку ад іх Волас. Паміж імі найвялікшым зьяўляецца Дрывяты, што займае абшар бяз малога 40 квадратовых кілямэтраў, а найглыбейшым Волас, да дна 39 мэтраў. Вада ў іх надзвычай празрыстая і блізу заўсёды неспакойная, а ў часе навальніцаў белыя хвалі з шумам разьбіваюцца аб стромкія й зьвілістыя берагі. І шмат утульных вастравоў на тых вазёрах, якія злучае разам рака Друйка, што ў Друі далучаецца да роднае Дзьвіны.

Нібы мур абаранялі Браслаўскія вазёры Полаччыну, а найбольш шырокі пярэсмык паміж імі, дзе ў дадатак Друйка вузейшая, чым у сваёй далейшай плыні, замыкаў Браслаў, які ў 1965 годзе адсьвяткаваў сваё 900-годзьдзе. Заснаваў яго на папялішчы ранейшае сялібы ўнук Рагнеды й бацька Ўсяслава Чарадзея князь Брачыслаў, надаўшы яму сваё ймя. Зь цягам часу ў гэтым назове выпалі глухія зычныя і ён зьінaчыўся на — Браслаў. Прыгранічнае становішча спрычыніла яму шмат ліха. Гэтак з „Хронікі Быхаўца" ведаем, што ў 1065 годзе літоўскі князь Кернус зруйнаваў Браслаў і мноства тутэйшых людзей паланіў, а праз 400 год Сьвідрыгайла дачакаўся тут магістра Лівонскага, каб разам пайсьці супраць грознае Літвы, але перашкодзіла таму, як даволі гіранічна заўважыў летапісец, залева. Горад не аднойчы руйнавалі крыжакі, у 1550 годзе разбурылі яго дашчэнту крымскія Татары, праз 100 год спалілі стральцы цара Аляксея Міхайлавіча, але заўсёды ён змагаўся да апошняга. Наагул для гісторыі Браслава характэрны ягоны старадаўны гэрб: чалавечае вока на блакітным трохкутнім шчыце, ахутаным залатымі сонечнымі праменьнямі, дзе вока сымбалізавала сабой прымежную пільнасьць, а ў колеры шчыта адбіўся блакіт вазёраў.

Горад ляжыць на пярэсмыку паміж вазёрамі Дрывяты й Наваты, узвышаючыся над імі на 30 мэтраў і прыгожым амфітэатрам спушчаецца да іх, прычым сялібы дамоў даходзяць да самай вады. І найвышэйшае месца ў ягоным цэнтры вядомае пад назовам Замкавае гары. Да паловы 17 стагодзьдзя на ёй, паводля малюнку да карты Макоўскага ад 1613 году, існаваў мураваны замак з 3-мя вежамі, ад якога не засталося цяпер і рэштак. Калі ў 1955 годзе знаны археалёг Л. Аляксееў дасьледваў тутэйшае замчышча, ён удакладніў, што горад запраўды заснаваў Брачыслаў, а перад ім тут жылі латыголы. Паміж шматлікіх рэчаў, адкапаных на Замкавай гары, знайшлі й рыбацкія прылады, што дужа ўсьцешыла сучасных рыбакоў, і воск, які сьветчыў аб бортніцтве, і глячкі для ліцейнага рамяства, і тагачасныя асадкі — пісалы, як доказ пісьменства продкаў, але найбольш траплялася зброя — стрэлы, дроцікі, мячы й баявыя сякеры.

З вышыні Замкавае гары адкрываецца незабытны краявід, аздоблены вазёрамі й лясамі, курганамі й гаямі. Аж за 10 кілямэтраў відаць адсюль Слабодзкі касьцёл з прыгожай званіцай саракамэтравае вышыні. Зянон Панізьнік у нарысе „Браслава", зьмешчаным у лет. № 9 „Маладосьці", прыгадвае ўражаньне амэрыканскага падарожніка аб ім: „Калі я нараніцы пры ўсходзе сонца глядзеў на Слабодзкі касьцёл прыгажэйшага віду ў Эўропе я ня бачыў". Дарэчы, каваныя завесы й клямры гэтага касьцёлу, як і сьцены касьцёлу ў недалёкіх ад яго Дрывятах, маюць беларускі геамэтрычны арнамэнт. Тут-жа на Браслаўшчыне ў Мяжанах і Дрысьвятах захаваліся старадаўнія касьцёлы, што зьяўляюцца помнікамі беларускага драўлянага дойлідства. Асабліва цікавы Дрысьвяцкі касьцёл, якога сяміярусная зграбная вежа ўжо 500 год узвышаецца над старажытным гарадзішчам 11-га стагодзьдзя. Стрыманы па сваёй архітэктуры, ён арганічна ўпісаны ў навакольны краявід, а ў ім захаваліся старыя абразы тутэйшага пісьма й старадаўнія кнігі выданьня 16-17 стагодзьдзяў. Заслугоўвае таксама вялікае ўвагі базыльянскі барокавы кляштар у Друі, пабудаваны ў пачатку 17 стагодзьдзя, як і адначасны яму й таксама барокавы касьцёл у Пядруі, прычым у вапошнім не даеш веры, што хваёвы бязь ніводнае шчыліны бэлькам над скляпеньнем ужо 350 год, а клямкі ягоных дубовых дзьвярэй, зьбітых кавальскімі цьвікамі, зробленыя паводля вузору, звычайнаму для вакольных вясковых хатаў.

А наагул на Браслаўшчыне зь яе сьпічастымі дахамі пераважаюць готыка й барока, але разам з тым ня толькі на будынкі рэлігійнага прызначэньня пашыралася тут таленавітасьць народу, зь ягоным сталым імкненьнем да прыгожасьці. Яна адбілася навет у калодзежах, што сям-там па сваёй будове нагадваюць капліцы, але найбольш цікавы каменны млын у вёсцы Зарачча, пабудаваны ў 1882 годзе на рэчцы паміж вазёрамі Бужа й Рача. Ягоная белая сьцяна аздобленая птушкамі, кветкамі й жаўнерамі з паднятымі шаблямі, а ўсё гэтае зроблена з кавалачкаў пасечанага чорнага палявога каменя. Каменная мазаіка вельмі пасуе да ўсяго стогадовага млына, складзенага зь вялікіх камянёў.

І можа не працуе сёньня гэты млын, бо мацнейшая сіла круціць цяпер жорны, але, як заслужаны вэтэран, любоўна ўпрыгожаны калісьці ўдзячнымі тубыльцамі, заслугоўвае ён увагі й аховы. І хай сабе спыніліся ягоныя жорны, але ўсё роўна, зірнуўшы на яго, згадваецца народжаная вадзяным млынам жыцьцясьцьвярджальная мэлёдыя цудоўнага Франца Шуберта:
цудоўнага Франца Шубэрта:

Ня ставіў стары Браслаў помнікаў ні каралём, ні царом, ні іншым дзяржаўным правадыром, а паставіў на сваёй Замкавай гары абэліск з надпісам: „Памяці Станіслава Астыка Нарбута, тут пахаванага. Жыхары Браслаўскага павету. 1852 — 1926". Гэта быў вылучнай дабрыні доктар, які аднолькава ставіўся да ўсіх бяз увагі на нацыянальнасьць, веравызнаньне й сацыяльны стан. Зь Беларусам ён размаўляў пабеларуску, з Паляком — папольску, а калі лячыцца да яго траплялі Жыд або Расеяц, дык гутарыў зь імі па іхняму. Акрамя ўважлівае мэдычнае дапамогі, доктар Нарбут падтрымліваў хворых заўсёды ўласьцівым яму добрым гумарам, а бедных ня толькі лячыў дармова, але часам дапамагаў ім грашыма. На свае сродкі ён пабудаваў тут вялікую бальніцу, што стаіць і цяпер. Таму калі самотны ў сваім прыватным жыцьці Станіслаў Нарбут памёр, аплаканы ўсімі, дарослымі й дзецьмі, яго пахавалі на Замкавай гары, дзе ён любіў у часе кароткага адпачынку сядзець і глядзець удалеч на вазёры й лясы. А на абэліску зьмясьцілі вялікі ліхтар, якога сьвятло відаць было за 10 кілямэтраў. Навет памерлы дапамагаў уночы доктар Нарбут рыбакам на бліжэйшых і аддаленых вазёрах знайсьці дарогу ў цемры да сваіх хатаў.

Замкавая гара ў Браславе зьяўляецца палітым народнай крывёю гістарычным помнікам, які, магчыма, захоўвае таксама яшчэ ня цалкам адкапаныя навуковыя каштоўнасьці, а таму патрабуе яна дзяржаўнае аховы ад выпадковых пабудоваў. Чакаюць яшчэ дасьледчыкаў на вастравох вазёраў руіны мураваных будынкаў, якія народ у сваіх нязьлічоных паданьнях найчасьцей лучыць з каралевай Бонай. Заслугоўваюць вывучэньня архітэктурныя помнікі Браслаўшчыны, бо тым часам яны амаль абмінутыя мастацтваведамі. А калі толькі ня зьнішчаны абэліск на магіле доктара Нарбута, або калі пагашаны на ім ліхтар, дык трэба зноў запаліць яго, бо ягонае сьвятло сымбалізуе сабой вялікую любоў да роднае зямлі і ейных добрых людзей.

**Юрка Віцьбіч**

# З ПАДАРОЖЖА ВАКОЛ СЬВЕТУ

## 4. НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Цягніком Бэрлін-Ленінград 24 ліпеня раніцай ад'ехаў я з Варшавы. Як-жа моцна білася сэрца! Вызначаны вагон быў запоўнены людзьмі, што ехалі з Польшчы ў вадведзіны да сваякоў на Беларусь, як і тымі, што вярталіся з Польшчы дамоў. Усе мелі поўныя валізы. З акна вагону ўважна сачыў за краявідамі. Тыповыя, як і калісьці, краявіды, можа толькі з тэй розьніцай, што зямля была скрозь лепш выкарыстаная й выглядала багацейшай. Калі-ж аднак пераехалі граніцу, краявіды, хаця й падобныя, зьмяніліся. Сэрца сьціснулася, вочы самі заплакалі. Ці-ж я ўзноў апынуўся ў Азіі?

На граніцы ў Кузьніцы, на польскім баку, хутка палагодзілі фармальнасьці, забралі польскую візу дый здаў за паквітаваньнем усе польскія грошы.

У цягніку, па дарозе з Кузьніцы да Горадні, зрабілі кантролю. Раней, навет у Будапэшце, амаль не заглядалі ў валізкі. Тут было йнакш. Праўда, нічога не забралі, апрача магнітафоннай стужкі, найгранай перад ад'ездам у Мэльбурне, якую потым у Горадні зьвярнулі, але два фотаапараты, можа ня хочучы, пашкодзілі. Адзін часткава ўдалося направіць, а другі направіў аж пасьля павароту ў Мэльбурне. Пералічылі таксама ўсе мае грошы, што меў пры сабе, і запісалі ў пратаколе, які мусіў падпісаць.

У Горадні нікога, што хацелі-б прывітаць прыеджджых, на пэрон ня пусьцілі. Спатыкаліся за асобнай брамай пры выхадзе із станцыі. Я, чакаючы на магнітафонную стужку, быў змушаны затрымацца на пэроне. Сястра, што прыехала з Ваўкавыска мяне спаткаць, чакаючы гадзіну пасьля прыбыцьця цягніка, калі ўсе, што прыехалі, павыходзілі й разьехаліся, ужо мелася вяртацца дамоў. Але яшчэ раз забегла на станцыю, і мы спаткаліся. Кінулася з плачам да мяне. Выйшлі перад станцыю. Паколькі сястра замоўленае раней таксі адправіла, давялося ёй добра набегацца й начакацца, пакуль знайшлі таксёра, які за адмысловую аплату згадзіўся завезьці нас да Ваўкавыска.

Калі ўспамінаю цяпер гэны мамэнт, ён як жывы стаіць перад вачыма. Лёгка сабе ўявіць, што мы, пасьля 30 год, абое адчувалі. Бачыў сястру апошні раз у Крынках, і то выпадкова, калі вярнуўся з байцом з уборнай колькі дзён пасьля майго арышту. Яна, тады дзяўчынка, прывезла перадачу мне пачок (бо калі мяне арыштавалі, нічога з сабою ня меў) і чакала на вуліцы на шчасьлівы выпадак пабачыць мяне. Пабачыла. І крыкнула. Гэны голас і сяньня чую. А я тады ня змог навет адазвацца. Цяпер — мы былі ўзноў разам і — вольныя. Таму прытулілася, як да бацькі, і ціха плакала.

З Горадні да Ваўкавыска ехалі мы знаёмай мне дарогаю, мясцамі лепшай, мясцамі горшай, як калісьці. Міналі шырокія палі із збожжам і ўжо бяз збожжа, зь зялёнай бульбай, жаўцеючым лёнам. Перасяклі хвалістыя ўзгорыстыя палі, большыя ці меншыя лапіны лесу, рэчкі, зялёныя лугі, на якіх пасьвіліся стады пераважна аднае пароды быдла — чырвоных ці бела-чорных кароў. Коней бачыў мала. На палях працавалі машынамі. Праяжджалі праз вёскі, пасёлкі, мінулі мястэчка Скідзэль. Хаты спатыкаліся старыя, але было й шмат новых, часта мураваных, крытых бляхай, з радыёвымі й тэлевізійнымі антэнамі на дахах.

На дарозе рух быў малы. Спатыкаліся машыны, пераважна грузавыя калгасныя. Спатыкалі й машыны легкавыя, крытыя брызентам, пераважна калгаснай ці мясцовай адміністрацыі. Часамі мінаў нас і таксі, звычайныя, пераважна старэйшага тыпу самаходы. Калі пад'ехалі да Нёману, да старога мосту, дзе ўжо звозіўся матарыял на будову новага, ня вытрываў, каб не папрасіць шафёра затрымацца хаця на хвілінку, каб лепш прыглядзецца сваёй улюбленай рацэ. Так захацелася ўзноў у ёй выкупацца. Але трэба было сьпяшацца дамоў, дзе чакалі на госьця.

Было ўжо пад захад сонца, калі мы ўехалі ў Ваўкавыск. Міналі знаёмыя вуліцы, ня гэтак ужо зьмененыя за гэтулькі год. У цэнтры было інакш. Пабачыў новыя колькіпавярховыя дамы, вялікія патрэты партыйных і важнейшых мясцовых кіраўнікоў у асысьце сьцягоў і лёзунгаў. Хаця пры вуліцах было шмат дрэваў і ў зелені прыгожа выглядалі, дзякуючы дарозе, часамі незабрукаванай, было даволі пылу, які за самаходам падымаўся з дарогі і цягнуўся за ім хвастом.

На месца пад'ехалі мы нечакана. Маці, змучаная колькігадзінным чаканьнем на вуліцы, якраз зайшла ў хату, калі пачула кляксон таксі. Аж крыкнула: „О Божа!" і выбегла. Спаткаліся мы перад домам у цені старых вялікіх ліпаў. У хаце мы ўсе з радасьці добра выплакаліся й доўга прыглядаючыся сабе, шукалі ў вачох таго, чаго словамі ў лістох пераказаць немагчыма. Перад тым, як сесьці за стол, я „распакаваўся" абдзяляючы ўсіх падаркамі. Яны дзівакаваліся, цікавіліся й дзякавалі, а я шкадаваў, што гэтак мала прывёз. Пілі за здароўе прысутных і ўсіх тых, якіх страцілі. І ўзноў былі сьлёзы. Да пазна цягнулася гутарка.

Памешканьне, у якім жылі маці із сястрою зь ейнымі дзяцьмі, складалася з двух невялічкіх пакояў і куханькі (уборная ў вагародзе, вада — у студні), якое мусілі дзяліць яшчэ з аднэй асобай, што зь імі жыла. У памешканьні было электрычнае сьвятло, тэлефон. У кухні, апрача звычайнай на дзерава, была яшчэ малая газавая (з бутлі) куханька. Была электрычная пральня й халадзільнік. У пакоях былі яшчэ старыя мэблі, якія калісьці купляў. Сястра зьберагла. Былі й нейкія аўстралійскія рэчы, якія пачкамі перасылаў. Было піяно й тэлевізар. За памешканьне плацілі ня шмат. Пры доме даволі вялікі агарод, падзелены на часткі для сем'яў, што жылі ў гэным доме. Гэты агарод, як і „прысялібны ўчастак", прыдзелены часова ў іншым месцы, забіралі шмат працы й іншых захадаў, але былі вельмі важным эканамічным дапаможнікам.

У сваіх было мне добра. Навет кашаль, што мяне дагэтуль мучыў, спыніўся. Так мяне маці зь сястрою дагледзілі. Першай раніцы на сьнеданьне падалі маладую картоплю із скваркамі й цыбуляй ды зь кіслым малаком і сьмятанаю. Хутка зьехаліся сваякі й знаёмыя ды й незнаёмыя. І я хадзіў, найчасьцей із сястрою, ці езьдзіў аўтабусамі (камунікацыя на Беларусі выгадная й танная, хоць дарогі кепскія, але на далейшыя выезды трэба замаўляць білеты і чакаць на іх даўжэй, хіба што ёсьць знаёмыя ўплывовыя людзі, праз якіх білет дастаецца адразу) да сваякоў і знаёмых па Гарадзеншчыне. Гутаркам ня было канца. Гасьцявалі ад душы. Гарэлку скрозь пілі шклянкамі мужчыны й жанчыны. Сваё хвалілі й крытыкавалі, чужым вельмі цікавіліся. Вайна задала ўсім страшэнныя раны. Ня было сям'і, якая кагосьці не аплаквала. Дый ня было поўнага заўтрашняга дня. Але паколькі ўсё памаленьку вярталася да нормы, і жыць сяньня было лепш, як учора, наагул былі задаволеныя. Каб толькі ня было вайны! — непакоіліся.

Быў у Вялікай Бераставіцы на магілках, на магіле бацькі й дзеда. Прыкрае ўражаньне зрабіла спаленая капліца, якой не аднаўлялі. А стоячы на ўзгорку, найвышэйшым месцы магільніку, як-бы скардзілася на сваю сяньняшнюю долю.

У нядзелю быў на Багаслужбе ў праваслаўнай царкве ў Ваўкавыску. Было поўна вернікаў, пераважна старэйшых, асабліва жанчынаў. Вельмі добра пяяў хор. Маліліся ўсе шчыра.

Менску пабачыць не давялося, хаця вельмі хацеў. Мусіў-бы чакаць на афіцыйны дазвол найменш 10 дзён. А я меў візу толькі на 12 дзён.

Хадзіў па дзяржаўных установах і вольным рынку, дзе пераважна жанчыны прадаюць свае тавары. Тавараў наагул у магазынах даволі, толькі так прадавалася, абслугоўвалася, што пакуль палагодзіць закупы, трэба начакацца й настаяцца. Пераканаўся, што лепшыя тавары, калі давозілі да магазыну, найчасьцей прадаваліся знаёмым раней, а звычайны пакупнік іх не пабачыў. Пабачыў і наш дом, які з такімі цяжкасьцямі мы перад вайною пабудавалі, а які ад маткі забралі. Быў у вельмі запушчаным стане.

Хаця друкуецца пабеларуску шмат газэт, часапісаў, ёсьць беларускія кніжкі (вельмі малыя тыражы), чуваць праз радыё і тэлебачаньне зь Менску беларуская мова, аднак у гутарках-размовах скрозь толькі мова расейская.

У калгасах людзі наракалі, што ня могуць справіцца з работай, бо моладзь па сканчэньні школы найчасьцей уцякае ў горад, дзе лягчэйшае жыцьцё й больш платная праца. У калгасах застаюцца старэйшыя, інваліды, пэнсіянеры ды энтузіястыя, якіх ня шмат. У розных калгасах жывуць парознаму. Там, дзе дабраўся людзкі кіраўнічы пэрсанал, асабліва добры гаспадар — старшыня калгасу, там калгас можа запоўніць і дзяржаве даход, і калгаснікам магчымае жыцьцё. Але там, дзе кіраўнічы актыў цягне перадусім да сябе, асабліва, калі дабяруцца п'яніцы, там жыцьцё калгасьніка цяжкае. Але людзі, навучаныя шматгадовым дазнаньнем, камбінуюць на ўсе бакі й неяк сабе радзяць. Скажу навет, што цяпер наагул задаволеныя з жыцьця. Ня маюць яны вялікага апэтыту, іх цешыць навет маленькае палепшаньне ў жыцьці і, хаця жывуць сяньняшнім днём, маюць надзею й на лепшую будучыню. Баяцца толькі вайны.

Калі выказваю гэтыя заўвагі, наагул ведамыя, мушу зазначыць, што яны няпоўныя з прычыны абмежаванасьці гэтага агляду й кароткага майго побыту на Бацькаўшчыне. За 12 дзён ня шмат пабачыў, хаця вельмі, вельмі шмат перажыў.

Разьвіталіся із сваімі й знаёмымі, што ўзноў зьехаліся на мой ад'езд, больш спакойна, хаця із сьлязьмі, і задаволены вярнуўся праз Берастовіцы да Горадні, каб далей цягніком паехаць на захад. Пакуль дазволілі заладавацца, узноў пракантралявалі мае рэчы. Магнітафонную стужку, найграную напярэдадні выезду ў Аўстраліі, зьвярнулі. Але не дазволілі ўзяць другога залатога пярсьцёнка, які сястра перасылала брату ў Канадзе.

У Горадні разьвітаўся із сястрою й знаёмымі. У Кузьніцы з Бацькаўшчынай. Вярнуўся ў іншы сьвет, дзе тыя самыя словы маюць іншы зьмест. Таму гэтак цяжка зразумецца. Гаворачы фармальна аб тым самым, разумеецца і ўяўляецца ўсё парознаму, пасвойму. Але дзякуючы розным кантактам сяньняшняга жыцьця, гэтыя розьніцы пачынаюць зьмяншацца. Запальваюцца новыя зоркі. Пачынае будзіцца і там новае жыцьцё.

**М. Н.**

(Далей будзе)

*ДАРАГОМУ СЯБРУ МІКОЛУ —*
*НА 65 ГОД ЖЫЦЬЦЯ*

*Яно прыйшло адтуль, дзе ўцеха ходзіць з горам. —*
*жыцьцё цярністае. Там шчырыя сябры —*
*шлюць гімны хараству неўтамаваным хорам —*
*прасторы хлебныя, гульлівыя бары.*

*Яшчэ адзін парог. І зноўку сонца ўзыйдзе.*
*Адлыне ў нябыцьцё цяжар і крыўд, і мук.*
*Пачаты ўчора шлях у морак не адыйдзе,*
*бо поруч на яго ступае сяньня ўнук.*

*Ды будуць зноў цьвісьці сады і пахнуць хвоі,*
*пшаніцы і жыты да неба ўздымуць зрок.*
*Ні сыпкія пяскі, ні сьнежныя сувоі*
*назаўтра не зьмятуць унука мужны крок.*

*23. 10. 1970*

*Алесь*

### ПЕРАД СЛУЦКІМІ ЎГОДКАМІ

Дня 11 кастрычніка адбылася зборка Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Аддзел у Нью Джэрзі, на якой былі зробленыя інфармацыі пра вэтэранскі рух. Была праведзеная дыскусія ў справе вэтэранскае ўніформы, рангаў ды заслугаў у арганізацыйным жыцьці наагул.

Сёлета ў лістападзе-сьнежні спаўняюцца 50-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня — Вялікага Нацыянальнага Ўздыму й Нацыянальнай трагедыі. Пастаноўлена на ўгодкі гэтыя злажыць вянок на магіле аднага з былых паўстанцаў, што спачывае на Беларускім магільніку Жыровіцкай Божай Маці. Вянок у нацыянальных калёрах будзе рэпрэзэнтаваць Імя ўсіх Беларускіх Гэрояў, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына. Будуць таксама ўдэкараваныя магілы ўсіх вэтэранаў і нацыянальных дзеячоў беларускімі сьцягамі малога разьмеру.

50-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ладзяць: Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Джэрзі.

пазьнейшыя выданьні) першы нумар часапісу „Скаўт", а ў лістападзе гэнага-ж году — першы нумар „Скаўцкай Інфармацыйнай Службы" (у скарачэньні — СІС) — месячны бюлетэнь, які ад гэнага часу бесьперапынна выходзіў да студзеня 1950 г. Асабліва каштоўным укладам В. Пануцэвіча ў гэтай галіне было апрацаваньне скаўцкіх рэгулямінаў на аснове Бадэн-Поўля, але датарнаваных да нашых беларускіх вымаганьняў. Лёрд Бадэн-Поўль быў заснавальнікам ці, як яго называюць, бацькам скаўтынгу, які пачаўся ў 1908 г. у Ангельшчыне, а тады прыняўся ўва ўсім сьвеце. Апрацаваныя Пануцэвічам праекты „Рэгуляміну скаўцкіх спраўнясьцяў" (68 бач.) і „Скаўцкага страявога рэгуляміну частка 1" (36 бач.) зь невялікімі папраўкамі былі зацьверджаныя 1-ым Скаўцкім Зьлётам.

На гэным 1-ым Зьлёце дэлегатаў ад усіх беларускіх скаўцкіх адзінак з усіх трох зонаў Нямеччыны, што адбыўся 6-8 ліпеня 1946 г. у Ватэнштэце, усе існуючыя скаўцкія адзінкі былі аб'яднаныя ў вадзіную беларускую скаўцкую арганізацыю пад назовам Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне (ЗКСЧ) з Галоўным Кіраўніцтвам на чале. За галоўную мэту ЗКСЧ паставіла сабе, побач гуртаваньня ў свае рады як найбольшай колькасьці беларускай моладзі, навязаць дачыненьні зь міжнародным Скаўтынгам.

Зьлёт стаўся сьвятам ня толькі для беларускага лягеру ў Ватэнштэце, дзе ён адбываўся, але й для ўсёй беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Зь вялікай колькасьцяй скаўцкай моладзі прыбыло й шмат выдатных прадстаўнікаў нашага старэйшага грамадзтва, як паэтка Натальля Арсеньнева, літаратар і публіцысты Антон Адамовіч, удзельнікі Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году Арвард Будзька, Мікола Шыла й Язэп Гладкі ды шмат іншых.

Прыбыў на Зьлёт і архіяпіскап Філафей. Зь вялікім набажэнствам і ганорамі, належнымі герарху сваёй роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сустракала й прыймала яго моладзь. Заля грымела гарачымі воплескамі пасьля яго прывітальнага слова, у якім ён гаварыў пра высокія ідэалы хрысьціянскай культуры, пра гарачую любоў моладзі да сваёй Бацькаўшчыны. Ня ведала тады моладзь, як зрэшты й большыня старэйшага беларускага грамадзтва, што сам Уладыка ўжо тады самахоць выракся нашай і ягонай Бацькаўшчыны, самахоць пакінуўшы сваю царкву й пайшоўшы да чужых, дый, відаць, меркаваў навесьці за сабой туды-ж і гэную моладзь, прымаючы на сябе чын візытатара Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы для „Белоруссов".

Выбраны Прэзыдыюм у складзе: старшыня — сьцяжная Валянціна Жукоўская (Анг. зона), заступнік старшыні — сьцяжны Віктар Войтанка (Франц. зона), 1-ы сакратар — грамадовы Міхал Сенька (Анг. зона), 2-і сакратар — сьцяжны Зьміцер Сямёнаў (Амэр. зона), распачаў працу Зьлёту.

Пасьля даўгога раду прывітаньняў і прывітальных тэлеграмаў, між іншымі ад Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня, ад Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Шыпшына", наступіў для ўдзельнікаў даўгі й цяжкі працоўны дзень. Аж тры даклады: „Мэтады й кірунак скаўцкага ўзгадаваньня", „Арганізацыя Крывіцкіх Скаўтаў", „Скаўцкія эмблемы, форма, прывітаньні й кліч". Пасьля кажнага паважная даўгая дыскусія, бо прынятыя пастановы будуць фундамантам пад новастворану арганізацыю беларускае моладзі.

Другі дзень Зьлёту — нядзеля. Архірэйская Багаслужба, скаўцкі парад перад дастойнымі гасьцьмі й лягерным грамадзтвам, а вечарам у народным доме п'еса С. Залужнага (Хведара Ільляшэвіча) ці йнакш, „Старога Скаўта" — „У Купальскую ноч" у выкананьні ватэнштэцкіх скаўтак і скаўтаў.

3-ці дзень узноў праца — выбары Галоўнага Кіраўніцтва. На Галоўнага Кіраўніка Скаўтаў быў выбраны Вацлаў Пануцэвіч — дырэктар Ватэнштэцкай Беларускай Гімназіі, на Галоўную Кіраўнічку Скаўтак — Валянціна Жукоўская — настаўніца гэтай гімназіі. Супольны абед і на разьвітаньне скаўцкае вогнішча на лягерным пляцы з мастацкімі паказамі розных скаўцкіх групаў. Сярод іх выдзяліліся цікавасьцяй: рытмічная гімнастыка ватэнштэцкіх скаўтак пад кіраўніцтвам настаўніцы Лены Міціс і „Магамэд" скаўтаў Амэрыканскае зоны, ну і песьні — патрыятычныя й жартоўныя стройным хорам моцных маладых галасоў несьліся ў ціш летняй пагоднай ночы.

Рэха Першага Зьлёту беларускіх скаўтаў далялела аж да Імпэрыяльнай Галоўнай Скаўцкай Гасподы на 25, Бакінгам Палэс Роўд у Лёндане. У вадказ на прывітальную тэлеграму ад Зьлёту нашая Гаспода атрымала ад іх, побач падзякі ды ўзаемных прывітаньняў, і пакет зь інфармацыйнай скаўцкай літаратурай.

Пэрыяд паміж гэтым Першым і Другім зьлётам, што адбыўся 8-10 жніўня 1947 г. у Остэргофэне (Амэр. зона), як і ўвесь канец 1947 г. можна бадайшто назваць пэрыядам росквіту ў гісторыі Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на Чужыне. Лік сяброў за гэны час вырас удвая й дасягнуў колькасьці 945 хлапцоў і дзяўчат. Прыбыло 45 малодшых скаўцкіх кіраўнікоў, павысіўшы іхні агульны лік да 80. Скаўтынг пашырыўся навет і на беларускую студэнцкую моладзь унівэрсытэтаў у Мюнхэне й Марбургу.

Галоўная Гаспода ЗКСЧ, побач кантактаў з Галоўнымі Гаспадамі Брытанскага й Амэрыканскага Скаўтынгаў, навязала лучнасьць і зь Міжнародным Скаўцкім Бюром у Лёндане з мэтаю легалізацыі нашага скаўцкага згуртаваньня. У выніку гэтых захадаў у канцы 1947 г. беларускі скаўтынг атрымаў права на легальнае існаваньне ня толькі ў Нямеччыне й Аўстрыі, але і ў іншых краёх на выпадак далейшае эміграцыі. Афіцыйнай рэгістрацыі у Міжнародным Бюры ён фактычна быў улучаны ў міжнародны скаўтынг. З гэнага часу Галоўны Кіраўнік стала прыймаў удзел у штомесячных канфэрэнцыях Галоўных Кіраўнікоў нацыянальных скаўцкіх арганізацыяў. На гэтых канфэрэнцыях усе кіраўнікі складалі месячныя справаздачы з жыцьця й дзейнасьці сваіх арганізацыяў ды супольна пастанаўлялі аб розных справах і працы на будучыню.

Дзеля цясьнейшага супрацоўніцтва самой моладзі скаўтынгі ўсіх нацыянальнасьцяў у Нямеччыне ўлучна зь нямецкімі скаўтамі напачатку 1947 г. супольна ўтварылі Міжнацыянальную Скаўцкую Асацыяцыю зь сядзібай у Мюнхэне, і ўжо ў травені гэнага году далучылася да яе й ЗКСЧ.

Беларуская моладзь, апрача сваіх нутраных скаўцкіх імпрэзаў (19), вогнішчаў (17), экскурсіяў і лягераў (13) ды ня лічучы вечарынаў і агульнанацыянальных урачыстасьцяў з удзелам скаўтаў, прыняла за гэны час удзел у 14-ёх міжнацыянальных зьлётах і спаткаваньнях ды ў не адным зь іх на спаборніцтвах брала першае месца.

Вельмі ажыўленай была й выдавецкая праца ня толькі Галоўнай Гасподы, а дакладней — Галоўнага Кіраўніка: 7 нумароў часапісу „Скаўт", 4 нумары часапісу „Юнак", 7 нумароў бюлетэню „Скаўцкая Інфармацыйная Служба", 3 скаўцкія рэгуляміны і 3 канспэкты для заняткаў, але й самых скаўтаў: штандар „Баварыя" выдаў 4 нумары часапісу „Напагатове", 5 нумароў бюлетэню „Ганец" і 3 скаўцкія брашуры, а першы Сьцяг „Ватэнштэт" — адзін нумар часапісу „Беларускі Скаўт" і паэму Міхася Машары „Сьмерць Кастуся Каліноўскага".

**(Працяг у наступным нумары)**

**Першая Галоўная Кіраўнічка**
**Беларускіх Скаўтак на Чужыне**

